ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

КНІГАНОША

№ 44
чэрвень, 2017

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Валянцін ДУБАТОЎКА:

# «Галоўнае для чалавека – гэта яго сям'я...»



**– Шаноўны Валянцін Яўгенавіч, у Вашай новай кнізе «Чужы» цэнтральны твор – аповесць пра жыццё ў 1939–1950-я гады ў Беларусі. Чаму Вы звярнуліся да гэтай тэмы?**

– На маю думку, дадзеная тэма і дасюль мала даследавана. Сацыяльныя, нацыянальныя, рэлігійныя групы беларускага грамадства ў згаданы перыяд перажывалі жахлівыя, нечалавечыя пакуты. У перыяд з 1939 па 1953 год з тэрыторыі Заходняй Беларусі палякі, каталікі Беларусы, якіх саветы прылічвалі да палякаў, заможныя сяляне, гандляры, нацыянальна скіраваная інтэлігенцыя вывозіліся на Усход сем'ямі, хутарамі, вёскамі. А колькі іх знайшло свой вечны спакой у Курапатах, Катыні і гэтак далей. Апагей узгаданай трагедыі прыпадае на Савецка-Германскую вайну (1941–1945 гадоў), закладнікамі якой і сталі жыхары Беларусі.

Зараз прынята лічыць, што высокая мэта, дапускае чалавечую ахвяру. Таму і эксплуатуюцца літаратарамі-пераражджэнцамі вобразы партызанаў-герояў, што ўзрываюць сябе, каб не трапіць у палон. І камуністы-чырвонаармецы, якія закрываюць сваімі целам амбразуры нямецкіх ДЗОТаў. І чытач, паддаўшыся гераічнай патэтыцы, нейк само-сабой забываецца, што галоўнае для чалавека – гэта яго сям'я, людзі, што жывуць побач у суседняй вёсцы альбо горадзе. Лёс звычайнага беларуса, які, прайшоўшы пякельныя выпрабаванні, усё ж такі застацца чалавекам у гэтай крывавай калатнечы – гэта і ёсць «суперідэя» дадзенага твора.

**– Вы даследуеце матэрыяльную спадчыну і гісторыю роду Сапегаў, аўтар краязнаўчай кнігі «Архіпелаг Сапегаў». Чаму Вы зацікавіліся гісторыяй гэтага слаўтага роду і ўвогуле краязнаўствам?**

*(Працяг на стар. 7)* ➲

**Даведка «Кніганошы»:**

**Валянцін Дубатоўка – пісьменнік, краязнаўца, мецэнат. Аўтар кнігі гістарычных нарысаў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў» (2002), кніг прозы «Чорная Воля» (2013), «Чужы» (2017). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна на Гродзеншчыне. Жыве ў Гродне.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Мудроў Вінцэсь. Забойца анёла: аповесці і апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 256 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 93).**

Зборнік складаюць 13 апавяданняў, большасць якіх публікавалася ў перыядычным друку. Апісаныя ў іх падзеі разгортваюцца ў недалёкім савецкім мінулым, перабудовачнай парой і ў наш час.




**Астапенка Анатоль. Між светам тым і гэтым: апавяданні беларускага алкаголіка. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 312 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 76).**

Не выпіць – гэта здорава. Так вам скажа любы любіцель выпіць і нават просты працоўны грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Толькі праз працэс прыняцця «на грудзь» магчымы былі амаль усе знаёмствы аўтара з вельмі цікавымі людзьмі мінулай эпохі, піша аўтар кнігі.




**Эспіноса Руіс Анхела. Pomme de ciel. Прадмова У. Някляева. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 94).**

У тым, як і што піша Анхела, можна адчуць падвышаную эмацыйнасць і энергетыку... У беларускай паэтцы адчувальны покліч гішпанскай паэтычнай і музычнай культуры, піша Уладзімір Някляеў.




**Дубатоўка Валянцін. Чужы: аповесць, апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 240 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 95).**

У цэнтры вострасюжэтнай эпічнай аповесці Валянціна Дубатоўкі «Чужы» – жыццё заходнебеларускага хлопца Кастуся Саўчыка, на долю якога выпалі цяжкія выпрабаванні, але не зламалі яго – у фінале ён дарue жыццё свайму крэўнаму ворагу і тым самым застаецца чалавекам. Дэтэктыўнасць, псіхалагізм, трапнасць мастацкіх дэталяў уласцівы апавяданням «Брат» і «Іосіф».




**Бартуль Аўген. Князёўна: з паэтычнай спадчыны. Уклад., прадм., камент. С. Чыгрына. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 108 с.**

Упершыню ў Беларусі асобным зборнікам выдаюцца выбраныя паэтычныя творы заходнебеларускага паэта А. Бартуля (1908 – пасля 1947).




**Быкаў Васіль. Сваякі: графічны раман. Дызайн і ілюстрацыі Яна Жвірблі. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 32 с.**

Апавяданне «Сваякі» ў аздабленні Яна Жвірблі робіць фанатам коміксаў і аматарам авангарднай кніжнай графікі сапраўдны падарунак. Жорсткі твор Васіля Быкава пра тое, як маці, паспадзяваўшыся на сваяцтва з вясковым паліцаем, неўпрыцям адпраўляе двух сыноў на смерць, праілюстраваны гэтак жа бязлітасна востра. Экспрэсіўныя, натуралістычныя і поўныя трагізму малюнкі мастака нагадваюць, што гэта зусім не просценькі комікс для дашкольнікаў, а паўнавартасны графічны раман.




**Юрэвіч Лявон. Літштудыі. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 208 с.**

Кніга Лявона Юрэвіча «Літштудыі» складаецца з літаратуразнаўчых нарысаў, прысвечаных розным жанрам, аўтарам і творам айчыннага пісьменства. Сярод аб'ектаў цікавасці даследчыка беларускай эміграцыі і архівіста з Нью-Ёрка – творчасць З. Бядулі, Ю. Віцьбіча, Я. Дылы, У. Караткевіча, Р. Крушыны, В. Ластоўскага, Я. Юхнаўца і іншых. Пры гэтым паэзія і проза эміграцыйных ды метрапольных аўтараў разглядаецца ў непарыўнай сувязі, як неад'емныя элементы беларускай літаратуры.




**Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Навук. рэд. Н. Гардзіенка; прадм. Л. Юрэвіча. – 2-е выд., дапрац. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 632 с.: іл. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 31).**

Другое мінскае выданне працы В. Кіпеля «Беларусы ў ЗША» (31-я кніга ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны»), значна дапрацаванае аўтарам з улікам падзеяў апошніх дзесяцігоддзяў. У кнізе адлюстраваныя розныя этапы беларускай прысутнасці ў Злучаных Штатах – ад з'яўлення першых вядомых паасобных эмігрантаў да апошніх хваляў масавай эміграцыі. Чытач знойдзе тут інфармацыю пра палітычную, эканамічную, культурна-асветную дзейнасць суайчыннікаў, пра славутых і малавядомых выхадцаў з беларускіх земляў, што пакінулі свой след на Амерыканскім кантыненце.




**Нурдквіст Свэн. Пэтсан сумуе. Мастак Свэн Нурдквіст; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 32 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 15).**

У кнізе аповед будзе пра дзядулю Пэтсана, на якога раптам звалілася восеньская хандра, і пра тое, як маленькі Фіндус ратаваў сябра ад яе.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Нурдквіст Свэн. Паляванне на ліса. Мастак Свэн Нурдквіст; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 32 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 16).**

Пэтсан, яго коцік Фіндус і некалькі курэй жывуць на хутары. Аднойчы да іх прыйшоў сусед Густаўсан і сказаў, што збіраецца паляваць на ліса, бо ён крадзе курэй. Хутка ты даведаешся, што ж прыдумалі Пэтсан і Фіндус, каб напужаць ліса.




**Уладзімір Дубоўка: Ён і пра яго. Уклад., прадм., камент. Ганны Севярынец. – Мінск: Лімарыус, 2017. – 540 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Дакументальная біяграфія выбітнага беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі складаецца з аўтабіяграфічнай прозы, успамінаў сучаснікаў, лістоў, архіўных дакументаў, сабраных з шырокага кола крыніцаў і дадзеных у храналагічнай паслядоўнасці. Значная частка матэрыялаў і фотаздымкаў друкуецца ўпершыню.




**Несцяровіч Уладзімір. Эпоха русалкі: паэтычны зборнік. Маст. Стася Сакалоўская. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 112 с.: іл.**

У вершаванай серыі ты міжволі па-свойму пасябруеш з кожным з дванаццаці месяцаў, адчуеш непаўторнае хараство любой пары года або стану надвор'я. Гэтая серыя, як і кожны з прапанаваных аўтарам асобных вершаў, абавязкова не пакіне цябе раўнадушным, бо, чытаючы іх, ты ўласна адчуеш, як напятыя струны тваёй душы загучаць на ўсе лады.




**Гапеева Вольга. Граматыка снегу. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 68 с.**

Новая кніга Вольгі Гапеевай пашырае межы ўсведамлення штодзённасці, дзе словы і значэнні ўглядаюцца адно ў адно ў надзеі пазбегнуць самоты. Гэта своеасаблівая граматыка ўзаемін чалавека з сусветам праз мову. Сімвалічнасць снегу, якая пранізвае кнігу наскрозь, выклікае бязмежнасць інтэрпрэтацыяў паэзіі Вольгі Гапеевай.

**Маркас Хуан Мануэль. Зіма Гюнтэра: раман. Пер. з ісп. Васіль Песенка. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 304 с.**




Раман «Зіма Гюнтэра» (прэмія «Кніга года», Асунсьён, 1987) перапісваўся аўтарам дзесяць разоў цягам трынаццаці гадоў. У тэксце па-майстэрску спалучаюцца авангардныя літаратурныя тэхнікі і рысы постмадэрнізму, ад плыні свядомасці Джойса ды Фолкнера да поліфанічнага дыялогу і карнавалізацыі Бахціна. «Зіма Гюнтэра» – адкрыты раман, у якім пераплецены дэтэктыўная інтрыга, ода каханню, глыбокі роздум аб гістарычных каранях парагвайскай нацыі ды іранічны погляд, не пазбаўлены гумару і эратызму, на парадоксы нашага часу. Падарожнічаючы разам з Гюнтэрам, немцам па крыві, але парагвайцам па нараджэнні, ды ягонай жонкай, мулаткай Элісаю Лінч, чытач трапіць у апраметную паўднёваамерыканскай ваеннай дыктатуры, дзе адзіная надзея на збавенне – непераможны ідэалізм моладзі.




**Пшанічны Ярыла. Атамная лучына: вершы, паэма. Уклад. і прадм. Віктар Жыбуль. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 320 с.: іл.**

Другую кнігу «Атамная лучына» паэта, музыканта, мастака і перформера Ярылы Пшанічнага (сапр. імя Уладзімір Банько; 1973–2015) склала аднайменная паэма, а таксама большасць вершаў, напісаных у 2000–2015 гг. З'едлівая сатыра, іронія, сарказм, давядзенне да абсурду, зварот да глабальных праблемаў сучаснасці, актыўнае выкарыстанне «трасянкі» вызначаюць адметны зухаваты стыль аўтара. Выданне багата аздоблена малюнкамі Ярылы Пшанічнага, яго фотаздымкамі з сябрамі і паплечнікамі па літаратурна-музычнай сцэне.




**Мядзведзева Кацярына. Разламашкі майстра Люфта: аповесці, апавяданні. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 384 с.**

У дзівоснай кнізе: аповесцяў і апавяданняў Кацярыны Мядзведзевай вы знойдзеце сапраўдную магію казкі, але казкі не для дзяцей, а для любога ўзросту. Непадробнае спалучэнне англійскай стылістыкі і славянскага фальклору робіць творчасць маладой пісьменніцы ўнікальнай з'явай у беларускай літаратуры. Творы К. Мядзведзевай ужо атрымаліі высокую ацэнку чытачоў і крытыкаў – у 2016 годзе пісьменніца стала фіналісткай прэстыжнай літаратурнай прэміі «Дэбют» у намінацыі «Проза».




**Садоўскі Уладзімір. 1813: навэла, апавяданні. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 120 с.: іл. – (Літаратурная серыя «Шляхецкая чытанка»).**

У кнізе змешчана навэла ў жанры зомбі-хорар «1813» і пяць апавяданняў. Дзеянне навэлы адбываецца ў апошнія дні зімы 1813 года. У разбуранае вайной мястэчка Маладэчна наведваецца ў госці да свайго дзядзькі Міхал Клеафас Агінскі – дыпламат, кампазітар, а цяпер сенатар Расійскай імперыі. З надыходам адлігі ў наваколлях мястэчка адбываюцца незразумелыя рэчы: забітыя жаўнеры паўстаюць з поля мінулай бітвы і нападаюць на жыхароў. Хутка замак Агінскіх апынаецца ў аблозе хадзячых мерцвякоў. Міхалу Клеафасу не застаецца нічога іншага, як узяць у рукі зброю.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Керэт Этгар. Раптам стук у дзверы: апавяданні. Пер. з іўрыту Паўла Касцюкевіча і Сяргея Шупы. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 224 с.**

Апавяданне «Заплюшчыўшы вочы» пачынаецца словамі: «Я ведаю чалавека, які мроіць дні навылёт». Этгар Керэт спадзяецца, што яго чытач таксама. Тут усё-ўсялякае: і трохпавярховая хлусня, і вокамгненныя пераўвасабленні, і шчымлівая неспадзяванка, і грубая праўда пра тое, як пад чорным лесам спаткаўся чорт з бесам. Тут карацелькі пра вымыслены свет, які можа ўцелавіцца ўвачавідкі. Керэтавы гісторыі дбайна выбудаваныя, даверху наладаваныя сэнсам, агаляюць нерв і адлюстроўваюць бязладдзе штодзённага жыцця заходняй цывілізацыі.




**Далэнга-Мастовіч Тадэвуш. Знахар: раман-фільм. Пер. з польскай Марыны Казлоўскай, Марыі Пушкінай, Марыны Шоды, Ганны Янкуты. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 292 с.**

«Знахар» – польскі бестселер 1937 года. Меладраматычны раман Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча апавядае пра выбітнага варшаўскага хірурга, прафесара Рафала Вільчура, які пасля страты памяці і шматгадовых бадзянняў пад іменем Антонія Касібы трапляе парабкам на млын у мястэчку на Браслаўшчыне, дзе нечакана выяўляе ў сабе невытлумачальную здольнасць лячыць людзей.




**Валасюк Лявон. Вечаровы настрой: вершы. – Брэст: Брэсцкая друкарня, 2016. – 120 с., малюнкі.**

«Вечаровы настрой» – чарговы, восьмы па ліку, зборнік вершаў паэта, празаіка і мастака Лявона Валасюка. Сабраныя ў ім паэтычныя творы прысвечаны мінуўшчыне і сённяшняму дню бацькоўскага краю, прыгажосці роднай прыроды. Яны закранаюць шматлікія маральна-этычныя праблемы, прымушаюць задумацца над спрадвечнымі духоўнымі каштоўнасцямі народа.




**Транстромер Тумас. Пад вольным небам. Пер. з шведскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 204 с, іл.**

Зборнік знаёміць з творчасцю выдатнага шведскага паэта, лаўрэата Нобелеўскай прэміі 2011 г. Тумаса Транстромера (1931–2015), мастацкай і чалавечай скарбонкай якому служыла сусветная літаратура. Антычныя, а збольшага біблійныя крыніцы, а таксама хрысціянская містыка і барочная паэзія ўдыхнулі жыццё ў яго тонкую і пранікнёную лірыку. Пры гэтым ён дасканала бачыў традыцыі, якімі наўпрост прасякнутая сучаснасць.




**Каханоўскі Ян. Выбранае. Пер. з польскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 104 с. (Паэты планеты).**

Ян Каханоўскі (1530–1584) – стаў першым сапраўдным класікам славянамоўнай паэзіі эпохі Рэнесансу. У Польшчы, аж да прыходу ў яе літаратуру нашага земляка Адама Міцкевіча, лічыўся безумоўным «каралём паэтаў».




**Вырхліцкі Яраслаў. Выбраная паэзія. Пер. з чэшскай Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017 – 80 с. (Паэты планеты).**

Яраслаў Вырхліцкі (або Врхліцкі; 1853–1912) – чэшскі паэт; быў адным з лідараў чэшскай паэтычнай суполкі «Лумір», якая сваёй мэтай ставіла прышчапленне на нацыянальным грунце досведу найбуйнейшых еўрапейскіх літаратур таго часу.




**Вала Катры. Выбраныя вершы. Пер. з фін. Я. Лапаткі. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 128 с. (Паэты планеты).**

Катры Вала (псеўданім Карын Алісы Хейкель, 1901–1944) – адна з самых вядомых паэтак у гісторыі фінскай літаратуры. Уваходзіла ў літаратурныя групоўкі «Носьбіты агню» і «Клін». Аўтарка некалькіх невялікіх зборнікаў вершаў, якія сталі знакавымі для нацыянальнай літаратуры. З мовы арыгіналу яе творы пераклаў Якуб Лапатка, вядомы таксама як перакладчык неўміручай «Калевалы».




**Катул Гай Валерый. Выбраныя вершы. Пер. з лацінскай Антона Францішка Брыля. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 76 с. (Паэты планеты).**

Гай Валерый Катул (каля 84 да н. э. – каля 54 да н. э.) – рымскі паэт часоў позняй рэспублікі, найважнейшы з неатэрыкаў. Вершы Катула – далікатныя прызнанні ў каханні, кпіны з сяброў, надзвычай вынаходлівая лаянка на ворагаў – высока цаніліся ў антычнасці. Усе пераклады ў зборніку друкуюцца ўпершыню.




**Дэбялянаў Дзімча. Выбранае. Пер. з балгар. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. — 88 с. (Паэты планеты).**

Дзімча Дэбялянаў (1887–1916) – адзін з яскравых прадстаўнікоў балгарскага сімвалізму. Свет яго лірыкі – гэта свет найінтымнейшых пачуццяў, уласцівых толькі глыбокай і складанай чалавечай натуры.




**Я, аўтар... альбо ўсё, што трэба ведаць аўтару пра аўтарскае права ў Беларусі: даведнік. Уклад. Вольга Сямашка. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 54 с.**

Кніга складаецца з дзевяці раздзелаў, дзе ў займальнай форме разгледжаны сістэмы маральных і маёмасных правоў аўтараў, распавядаецца, якія творы падлягаюць ахове, а якія не. Кожны ахвотны можа даведацца, як адбываецца передача аўтарскіх правоў, на які час яны дзейнічаюць і ўрэшце – як абараніць свой твор ад неправамернага выкарыстання іншым чалавекам. У дадатках да кнігі змешчаны адрасы і тэлфоны ўстаноў, якія займаюцца абаронай аўтараў, а таксама пералік кніг і заканадаўчых актаў, дзе можна здабыць больш поўную і падрабязную інфармацыю па тэме.




**Нічыпарук Павел, Мельнікаў Ігар. Адысея палешука. – Мінск: Альфа-кніга, 2017. – 328 с.**

У першай частцы кнігі публікуюцца ўспаміны беларуса, ураджэнца Кобрыншчыны, жаўнера Другога польскага корпуса Павала Каленікавіча Нічыпарука. У іх ён дэталёва і яскрава апісвае выпрабаванні, праз якія яму давялося прайсці падчас Другой сусветнай вайны. У другой частцы выдання змешчаны нарысы беларускага гісторыка Ігара Мельнікава, прысвечаныя розным аспектам гісторыі Беларусі.




**Радзюк Аляксандр. Пад скіпетрам Расейскай імперыі: рэпрэсіўная паяітыка царызму на землях Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. – Гародня-Кракаў: Гарадзенская Бібліятэка, 2017. – 196 с.**

У манаграфіі разгледжаны асноўныя элементы рэпрэсіўнай палітыкі царскіх уладаў у дачыненні да беларускіх зямель у канцы XVIII – першай палове XIX ст. Аўтар прасачыў эвалюцыю гэтай палітыкі, вызначыў яе адметнасці, а таксама наступствы. Значнае месца ў кнізе адведзена даследаванню механізмаў, праз якія царызм ажыццяўляў увесь комплекс мерапрыемстваў рэпрэсіўнага характару. Кніга скіравана да тых, хто цікавіцца гісторыяй роднай краіны.




**Краўцэвіч Аляксандр. Сінія Воды: гістарычны нарыс. – Мінск: А.М. Вараксін, 2017. – 56 с.: іл. – (Славутыя бітвы).**

Бітва 1362 г. на Сініх Водах непараўнальна больш значная за Кулікоўскую. Менавіта разгром стэпавікоў нашымі ваярамі на чале з вялікім князем Альгердам стаў першай ва ўсёй Усходняй Еўропе буйной перамогай над татарамі і вызваліў ад іхняга панавання ўкраінскія землі. Падзеі таго часу ўзнаўляе і аналізуе доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч. Знакаміты айчынны даследчык займаецца доказным разбурэннем небяспечных імперскіх міфаў, што набывае асаблівую актуальнасць у час агрэсіўнай прапаганды ідэі «русского мира».




**Галдзянкоў Міхаіл. Забытая Першая сусветная вайна. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 208 с.: іл.**

Задачы дадзенай кнігі не столькі ў тым, каб падрабязна прасачыць гісторыю гэтай забытай вайны, колькі – распавесці аб асаблівa важных яе момантах, выкрыць міфы аб гэтай вайне і прапанаваць сваё бачанне, а таксама дату завяршэння Першай сусветнай вайны. Факты кажуць пра тое, што яна не скончылася 11 лістапада 1918 года з падпісаннем перамір'я паміж Антантай і Германіяй.




**Трафімчык Анатоль. «Наш Касцюшка слаўны!»: гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 192 с.: іл.**

Першае комплекснае даследаванне мастацкага вобраза ў беларускай літаратурнай традыцыі лідара вызвольнага паўстання 1794 г. у Рэчы Паспалітай, героя барацьбы за незалежнасць англійскіх калоній у Паўночнай Амерыцы Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі. Увагай даследчыка ахоплены ўвесь вядомы корпус беларускіх літаратурна-мастацкіх тэкстаў, прысвечаных Касцюшку.




**Мінскі Алесь. Валенцій Ваньковіч: Мастак-рамантык з Мінска. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Валенцій-Вільгельм Ваньковіч (1800–1842) – знакаміты беларускі мастак рамантычнага кірунку, выдатны майстра партрэтаў сваіх сучаснікаў. Гэтыя творы назаўсёды захавалі для нашчадкаў непаўторныя рысы дзеячаў айчыннай культуры і прадстаўнікоў «шляхецкага народа» перыяду 1820–1830 гадоў.




**Шутовіч Янка. Пётра Сергіевіч: Мастак нацыянальнага Адраджэння. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Пётра Сергіевіч (1900–1984) – славуты мастак, аўтар больш за 600 жанравых карцінаў, партрэтаў, пейзажаў, шматлікіх графічных твораў. У іх ён стварыў вялікую галерэю вобразаў славутых сыноў і дачок беларускай зямлі, простых людзей працы, краявідаў Беларусі, выдатных падзеяў з яе гісторыі.




**Марціновіч Алесь. Адам Кіркор: Першы беларускі краязнаўца. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Адам Кіркор (1818–1886) – выдатны беларускі этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец, гісторык літаратуры, па сутнасці, першы беларускі краязнаўца. Здзейсненае ім – неацэнны духоўны набытак, якім карыстаюцца новыя і новыя пакаленні. Асабліва важнае значэнне маюць ягоныя працы «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе». Расказаўшы пра гісторыю нашага краю, матэрыяльную і духоўную культуру беларускага народа, ён стаў першаадкрывальнікам Беларусі для ўсяго адукаванага грамадства.




**Кісялёва Лія, Архіпава Вольга. Язэп Драздовіч: Даследчык Бацькаўшчыны і паэт космасу. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Язэп Драздовіч (1888–1954) – таленавіты, надзвычай арыгінальны беларускі мастак і краязнаўца. Значную частку жыцця ён прысвяціў даследаванню помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў: замалёўваў вёскі, цэрквы, касцёлы, капліцы, крыжы, запісваў фальклор. Драздовіч вядомы і як пачынальнік гістарычнай тэматыкі ў беларускім мастацтве.




**Митин Михаил. Белая Русь. Хроника употребления термина. – Рига: ИБИК, 2017. – 416 с.: илл. – (Неизвестная история).**

Гэта хроніка ўжывання паняцця «Белая Русь», а не хроніка Беларусі. Прынцып пабудовы кнігі такі: год згадвання – праверка крыніцы – тлумачэнне. Разгледжаны сапраўдныя дакументы, і не выбарачна, як прынята ў прафесійных гісторыкаў, а ўсе наяўныя. У выніку выяўлены: прамая фальсіфікацыя дакументаў; скажэнне іх сэнсу; падмена паняццяў. Выяўлены дакументы, якія гісторыкі не жадаюць цытаваць.

Прачытаўшы кнігу, чытачы зразумеюць, што «Белай Руссю» доўгі час звалася толькі Смаленшчына, што тэрмін «беларусец» у XVI–XVII стст. быў рэлігійным, а не этнічным. У справаводстве Масковіі выкарыстоўвалася «беларускае пісьмо», якое не мае адносінаў да сучаснай беларускай мовы.




**Лякин Владимир. По следам генерала Партуно: историческое расследование. – Смоленск: Издательство «Архив Великого княжества Литовского», 2017. – 256 с.**

Кніга прысвечана аднаму з важных і яшчэ недастаткова вывучаных эпізодаў знакамітай Бярэзінскай аперацыі 1812 года. Аўтар на аснове дакументаў і успамінаў відавочнікаў распавядае пра гісторыю, баявы шлях, лёсы генералаў, афіцэраў і салдат частак французскага ар'ергарда пад камандаваннем Л. Партуна. Прыняўшы ў зусім безнадзейнай сітуацыі бой са шматкроць наймоцным супернікам, яны выявілі ўстойлівасць і геpаічнасць, ахвяравалі сабой, але ацалелыя, узятыя ў палон, яны былі несправядліва асуджаны ў 29-м бюлетэні «Вялікага войска» і ўсё жыццё змагаліся за аднаўленне свайго добрага імя.




**100 сацыяльных інавацый з Фінляндыі. Уклад. Ілка Тайпале; пер. з фін. мовы Якуба Лапаткі. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2017. – 240 с.**

У гэтай кнізе распавядаецца пра 100 фінскіх інавацыяў. Іх творцы – бліскучая група людзей, якія самі вынайшлі тую ці іншую інавацыю або спрыялі ажыццяўленню інавацыйных праектаў. Суседзямі тут будуць аднапалатны парламент і добраахвотная супольная праца, дашкольнае выхаванне дзяцей і ўзбярэжныя масткі для мыцця дываноў, купанне ў палонках і кааліцыйны ўрад, камп'ютарная праграма «Лінукс» і фінскі Дзед Мароз… Гэтая кніга выходзіла за мяжой на 17 мовах і толькі пасля такога поспеху ў Фінляндыі пачалі цікавіцца каштоўнасцю таго, што раней лічылася простым і зразумелым. Выданне адрасуецца ўсім, хто цікавіцца фінскай, скандынаўскай і сусветнай сацыялогіяй, грамадазнаўствам, гісторыяй і культурай.




**Лапатка Якуб. Кароткая граматыка фінскай мовы. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2017. – 160 с.: – (Серыя «Беларускія ЕўраГраматыкі»).**

Асновай гэтага дапаможніка паслужыў аўтарскі ўласны досвед. Тут сабраныя і растлумачаныя на мностве прыкладаў базавыя з'явы фінскай граматыкі. Усе прыклады ўзятыя з фінскіх крыніцаў, і паралельна з імі даецца пераклад на беларускую мову. Дапаможнік паспрыяе тым, хто вывучае фінскую мову як самастойна, так і з выкладчыкам. Выданне адрасуецца ўсім, хто цікавіцца фінскай і іншымі еўрапейскімі мовамі, гісторыяй і культурай.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by, halijafy.by і e-kniga.by.

# Пяты выпуск Школы маладога пісьменніка

**15 чэрвеня ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі пятнаццаць маладзёнаў атрымалі сертыфікаты пра заканчэнне Школы пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

Павіншаваць маладых празаікаў прыйшлі выкладчыцы Ганна Бутырчык і Наталля Паваляева, каардынатаркі Школы Алена Казлова і Юля Цімафеева. Людміла Рублеўская, якая не змагла прысутнічаць, звярнулася да сваіх вучняў праз відэа.

Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч і намеснік старшыні Алесь Пашкевіч выступілі з прывітальнымі і віншавальнымі словамі, уручылі кожнаму з маладых аўтараў сертыфікаты. Выпускнікі падзяліліся сваімі ўражаннямі пра Школу і аднакурснікаў і зачыталі фрагменты з уласных твораў.

Сімвалам імпрэзы стаў «лёгкі, шпаркі матылёк», які ўпрыгожваў святочныя ўбранні навучэнцаў. Вялі вечарыну Дар'я Трайдэн і Аляксандр Веледзімовіч.

«Гэта адзіная Школа, дзе хочацца застацца на другі год», – жартуюць выпускнікі, і сапраўды – кожны з іх мае магчымасць падаць заяўку на навучанне на другім курсе, цягам якога будзе рыхтаваць свой уласны праект -- кнігу.

На сустрэчы прагучала шмат цёплых словаў узаемнай падзякі, бо Школа – не проста нефармальны адукацыйны праект, а таксама месца, дзе знаходзяць і веды, і новых сяброў, і свой шлях у літаратуру. Галоўнае, што падкрэслівалі старэйшыя калегі ў сваіх пажаданнях выпускнікам – не спыняцца на дасягнутым. Гэта не заканчэнне – гэта насамрэч працяг.

**Віка Трэнас, для lit-bel.org**



## ■ АЎТОГРАФ

# «Галоўнае для чалавека – гэта яго сям'я...»

*(Пачатак на стар. 1)*

– Я вырас на хутары Нябайкі, паблізу славутага мястэчка Дзярэчын, што на Зэльвеншчыне. І, паколькі электрычнасці на нашым хутары не было, увесь вольны час я чытаў кнігі альбо слухаў аповеды маіх дзеда і бацькі. Студзёнымі вечарамі дзед Міхась распавядаў мне пра слаўнага, багатага князя Сапегу. Пра тое, якім вялікім быў Дзярэчын, пра тамтэйшы велізарны магнацкі палац. Пра шматлікіх манахаў і гандляроў, што жылі калісьці ў мястэчку. Тыя аповеды былі больш падобныя на нейкую дзівосную казку, чым на забытую мінуўшчыну. А калі я вырас і даведаўся, што тыя аповеды дзеда – насамрэч праўда, у мяне выбару ўжо не засталося.

**– Вы фундатар царквы Усіх Беларускіх Святых у Гродна, кніг беларускіх пісьменнікаў, мемарыяльных дошак у гонар Ларысы Геніюш і ўдзельніка паўстання 1830 года Яўстаха Каятана Сапегі. У Беларусі краўдфандынг становіцца папулярным спосабам збору сродкаў для рэалізацыі праектаў. Так былі сабраныя грошы на выданне збору твораў Уладзіміра Дубоўкі, кнігі Льюіса Кэрала «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса» на беларускай мове і інш. Якая будучыня краўдфандынгу ў Беларусі? На што Вы ахвяравалі б грошы, які праект Вы падтрымалі б?**

– Гэта выдатная задумка. Краўдфандынгам у Еўропе выдавалася і выдаецца шмат кніг. Лічу, у нашай таталітарнай краіне, дзе знайсці грошы на выданне твораў незалежных літаратараў практычна немагчыма, узгаданы спосаб можа ператварыцца ў асноўную крыніцу збору неабходных сродкаў. Калі гаварыць пра мяне, то ў сувязі з тым, што я абраны кіраўніком абласнога аб'яднання Саюза беларускіх пісьменнікаў, лічу для сябе прыярытэтам займацца выданнем твораў мясцовых аўтараў.

**– Распавядзіце, калі ласка, над чым Вы цяпер працуеце?**

– Цяпер я працую над новай кнігай прозы. Спадзяюся, яна пабачыць свет наступнай вясной.



**Бліскавіцы: Анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду / укладанне, каментары Аксаны Данільчык, Віктара Жыбуля. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 88). – 448 с.**

Анталогія «Бліскавіцы» – унікальнае выданне. Упершыню пад адной вокладкай змешчаныя творы 61 беларускай паэткі, напісаныя ў «міжваенны» перыяд – з 1918 па 1941 г., што стварае панараму літаратурнага жыцця эпохі. У кнігу ўвайшлі творы і хрэстаматыйныя, і малавядомыя, і нават ніколі не публікаваныя раней. Як адзначыла ў сваёй грунтоўнай прадмове да кнігі Аксана Данільчык, укладальнікі анталогіі «імкнуліся паказаць не толькі найлепшае, але і характэрнае для тых часоў, даць магчымасць прагучаць забытым галасам беларускіх паэтак, а таксама паспрыяць актывізацыі даследаванняў іх паэзіі».



**Эва Суса. Снежны чалавек у Мінску. Пер. са швед. Дзмітрыя Плакса. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 13). – 36 с.**

Беларускія дзеткі і іх бацькі ўжо знаёмыя са Снежным чалавекам, а гэтым разам ён завітаў у Мінск! Гэтая кніга ўнікальная, бо найперш пабачыла свет менавіта ў беларускім перакладзе ў серыі для дзяцей «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. У кнізе вядомай шведскай пісьменніцы казачны свет перакрыжоўваецца з паўсядзённасцю, і нават ля плошчы Перамогі, у цэнтры беларускай сталіцы, можна сустрэць сапраўднага Снежнага чалавека!



**Міхал Бараноўскі. Volumen.1. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Пункт адліку»). – 56 с.**

Паэт Міхал Бараноўскі вядомы як заснавальнік і аўтар песняў для гурта «Нельга забыць», супрацоўнік музея і папулярызатар творчасці Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, на словы якіх гурт запісаў адмысловыя канцэртныя праграмы. Аўтарская музычная праграма Міхала мела назву «Месца моцы», тэксты з яе і прадстаўлены ў зборніку «Volumen.1» асобнай нізкай.

Другая частка зборніка «Краг-Крых» змяшчае найноўшыя паэтычныя творы. Усе яны глыбока спавядальныя, часта вельмі асабістыя, але аўтар з'яўляецца хутчэй прыхільнікам мадэрнісцкай эстэтыкі і стварае шматслойныя, разгалінаваныя вобразы, прызначаныя для чытача, спакушанага і ў літаратурных, і ў міфалагічна-біблейскіх алюзіях. Адзнака паэзіі Міхала Бараноўскага – падкрэсленая нетаропкасць, паглыбленасць ва ўласную эмоцыю, метафізічнае ўслухоўванне ў яе.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 44
чэрвень, 2017
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 44 07.10.2017.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com